Информационный бюллетень

# КАРАНІ

№ 7 верасень, 2000 г.

# Выбары без выбара...

***Уладныя структуры працягваюць падрыхтоўку да прызначаных Лукашэнкам А.Г. на 15 кастрычніка 2000 года выбараў у так называемую Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.***

Як мы ўжо паведамлялі, зацверджаны 110 акруг, утвораны акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі. У Хойніцкай выбарчай акрузе № 49, куды ўваходзіць і Лоеўскі раен, створана акруговая камісія ў складзе якой больш асць - прадстаўнікі ўладных структур. У нашым раене створана 23 участковыя камісіі.

Пра тое, што выбары пройдуць па зацверджанаму ўладамі сцэнарыю, не будуць празрыстымі і справядлівымі іператворацца ў фарс, ужо зараз сведчаць шматлікія моманты іх падрыхтоўкі.

Усе участковыя камісіі створаны райвыканкамам і сельскімі саветамі, у склад іх не ўвайшоў ні адзін прадстаўнік палітычных партый і толькі два прадстаўнікі грамадскай арганізацыі БПСМ. Вылучэнні ў камісіі ажыццяўляліся праз сходы працоўных калектываў і заявы ад грамадзян, есць таксама вылучэнцы райвыканкама і прафсаюзных арганізацый. Наша спроба даведацца аб ходзе сходаў па вылучэнню прадстаўнікоў ва ўчастковую камісію нічога не далі і можна меркаваць, што гэтыя сходы або праходзілі фармальна, або наогул не праводзіліся і пратаколы аформлены без правядзення сходаў. Што гэта так, ускосна пацвярджае і раенная газета «Серп і молат», якая не змясціла ні аднаго паведамлення аб такіх сходах, хаця павінна была ўсебакова асвячаць ход падрыхтоўкі да выбараў.

Есць звесткі, што збор подпісаў пад заявы грамадзян на вылучэнне ў камісіі ажыццяўлялі работнікі апаратаў райвыканкама і сельскіх саветаў, а не ініцыятыўныя групы грамадзян. Склад участковых выбарчых камісій, а таксама тое, як яны ствараліся, сведчыць, што ўлады не імкнуцца да празрыстых і справядлівых выбараў.

У акругах ужо вылучаны кандыдаты ў дэпутаты. Па нашай акрузе іх тры.

Кулік В.В., дырэктар ААТ «Рэчыцкі камбінат хлебапрадуктаў», цяперашні шараговы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, вылучаны па яго просьбе на сходах некалькіх працоўных калектываў Брагінскага, Лоеўскага, Рэчыцкага і Хойніцкага раенаў.

Мішчанка К.С., намеснік старшыні Брагінскага райвыканкама, вылучаны на з'ездзе Партыі камуністаў Беларускай.

Паўлаў Я.С., галоўны інжэнер Брагінскага камбіната бытавога абслугоўвання, вылучаны на з'ездзе Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

Несумненна галоўным кандыдатам, якому будзе садзейнічаць у абранні дэпутатам уладная вертыкаль, будзе Кулік В.В. У калідорах улады сцвярджаюць, што Куліку В.В. асабіста Лукашэнка даў дабро на абранне ў Палату. Зараз Кулік В.В. праводзіць перадвыбарчую агітацыю за свае абранне. У Лоеўскім раене ен наведаў Райсельгасхімію, Райсельгастэхніку, калгасы і саўгасы. Час і месца такіх сустрэч шырока не афішыраваліся, пагэтаму мы не змаглі на іх патрапіць. Таму давялося звярнуцца да аднаго з удзельнікаў такой сустрэчы, які пракаментаваў яе наступным чынам: « Кандыдат ва ўсіх нашых бедах вінаваціў апазіцыю і Расію і абяцаў падняць закупачныя цэны на бульбу.»

Ну а што ж кандыдаты ад камуністаў і лібералаў? Зараз няма сумнення, што гэтыя партыі і іх вылучэнцы гуляюць у паддаўкі з правячым рэжымам, імкнучыся сваім удзелам прыкрыць выбарчы фарс перад насельніцтвам і сусветнай супольнасцю і забяспечыць тым самым легітымізацыю правячаму рэжыму.

Апазіцыйныя ж партыі, як вядома, не будуць браць удзел у гэтых выбарах без справядлівага выбару.

***У.Касцеяў.***

## Почему демократические партии отказались участвовать в выборах в белорусский парламент?

*Многие люди, как простые обыватели, так и довольно зрелые политики, задают сейчас этот вопрос. И находят для себя довольно много личных аргументов в пользу того, что в выборах участвовать надо. Не нужно торопиться обзывать их слепцами. Ситуация, которая сложилась у нас в стране, действительно не простая, и на поставленный вопрос нелегко найти правильный ответ. Вроде бы, если выборы, то значит демократия. А если демократия, то народ может сам избрать в основной законодательный орган страны тех людей, кто достоин его доверия.*

*Прежде чем высказаться за или против того, что было сказано выше, давайте попытаемся ответить на следующие вопросы:*

*1) Какие требования предъявляются к парламенту страны ?*

*2) В каком случае результаты выборов действительно будут зависеть от воли народа ?*

*Основное требование, которое предъявляется к парламенту - он должен быть наделен реальными полномочиями единого законодательного органа*

***Окончание на стр.2***

## Почему демократические партии отказались участвовать в выборах в белорусский парламент?

*Начало на стр.1*

*страны. То есть никто, кроме парламента, не должен иметь права издавать законодательные акты, которые имеют высшую юридическую силу и обязательны для исполнения всеми физическими лицами, государственными и общественными органами. Если же этого нет, то это уже не парламент, а нечто другое. Значит, людям подсовывают вместо новой соболиной шубы облезлый козий тулуп. Налицо обман, и в таких «выборах» не должны участвовать не только политические партии, но и все порядочные граждане страны.*

*Чтобы принимать разумные решения, людям нужна точная, объективная и разнообразная политическая информация, которую невозможно получить, если средства массовой информации служат исключительно только власти. Прозрачность выборов и режим доверия в стране невозможно создать без реального доступа оппозиционных партий к государственным СМИ, без прекращения политических репрессий и обеспечения свободы слова и собраний, без допуска политических партий во все уровни избирательных комиссий.*

*Если этого нет, то свободного выбора быть не может. Людям насильно навязывают определенную точку зрения - их просто нагло обманывают. Значит, вместо выборов организовывается фарс, в котором людей будут держать за болванчиков. Порядочным людям здесь не место, так как от их воли ничего зависеть не будет.*

*Теперь давайте посмотрим, что мы имеем в Беларуси:*

*- декреты Лукашенко имеют высшую юридическую силу ( таким образом, верховный властитель может отменить любой закон и успешно это реализует );*

*- оппозиционные политические партии доступа к государственным СМИ не имеют;*

*- многие известные политики подвергаются гонениям властей, либо сидят в тюрьмах, либо бесследно исчезают;*

*- что касается мирных собраний, то уже в стране набирает силу практика, когда за проведение пикета или митинга власти требуют от организаторов немалые суммы денег. Как писала «Народная воля" в № 147, Ялизовский поселковый исполком потребовал от организаторов пикета 45 тысяч рублей. Аналогично было в Светлогорске.*

*- Из всего вышесказанного я могу сделать только один вывод - власти уже давно определились на счет того, какой будет сделан «выбор» на осенних выборах. Им, думаю, уже известно даже то, сколько голосов будет подано за их кандидата, чтобы он достиг намеченной цели. Но они при этом рассчитывают на то, что я буду участвовать в выборах. А вот если я и многие другие, такие как я, в их «выборах» участвовать не будем, то игра в «выборы» может не состояться. После этого власти будут вынуждены проводить такие выборы, которые нужны не только им, но и народу.*

**Петр Мирошниченко**
**"Жлобінскія навіны"**
**август 2000 г.**

## Напярэдадні ацяпляльнага перыяду тарыфы нездарма павялічваюцца

З сенняшняга дня ( 16 жніўня 2000 г. - Рэд. ) тарыфы на цеплавую энергію і газ для ацяплення, што адпускаюцца насельніцтву, павялічваюцца на 50 працэнтаў.

Новыя тарыфы былі зацверджаны адпаведнымі пастановамі Мінэканомікі і прайшлі рэгістрацыю ў Мінюсце. У прыватнасці,- цяпер тарыф на цеплавую энергію, што адпускаецца прадпрыемствамі канцэрна «Белэнерга» жыллева-эксплуатацыйным арганізацыям для патрэб насельніцтва, складае 1452 рублі за 1 Гкал. Нагадаем, апошні раз тарыф на цеплавую энергію для насельніцтва павялічваўся да 968 рублеў за 1 Гкал з 15 ліпеня бягучага года. Тарыфы на газ для ацяплення павялічваюцца напалову. Газ, які адпускаецца насельніцтву для прыгатавання ежы, пакульне падаражэў.

Як паведамілі ў Камітэце цэн пры Мінэканоміні, пакуль не пачаўся ацяпляльны сезон, есць намер выправіць сітуацыю такім чынам, каб з цягам часу зняць з прамысловасці цяжар аплаты тарыфаў за сябе і насельніцтва, г.зн. гаворка ідзе пра так званае перакрыжаванае субсідзіраванне. «Мы спрабуем пазбавіць энергэтыкаў ад стратаў, інакш яны не змогуць нармальна ўвайсці ў ацяпляльны сезон. Трэба падрыхтаваць сеткі, купіць мазут. Каб не замерзнуць зімой, пытанне з тарыфамі трэба вырашаць зараз», патлумачылі карэспандэнту «Звязды».

***Сяргей Расолька, «Звязда»***
***16 жніўня 2000 г.***

## Павышаны цэны на нафтапрадукты

З часу апошняга іх павышэння не прайшло і дзесяці дзен. Цяпер, згодна з загадам кіраўніцтва дзяржканцэрна «Белнафтахім» літр бензіна А-76, які рэалізуецца прадпрыемствамі канцэрна праз аўтазапраравачныя станцыі, каштуе 404 рублі, АІ-92 - 505 рублеў, АІ-95 - 579 рублеў. Літр дызельнага паліва каштуе 375 рублеў. ( Гэта ўжо трэцяе падаражанне нафтапрадуктаў на працягу верасня гэтага года - Рэд.)

Асноўнай прычынай павышэння цаны на нафтапрадукты, як тлумачаць ва ўрадзе, з*яўляецца патрэба «Белнафтахіма» ў абаротных сродках, якія неабходны для закупкі вуглевадароднай сыравіны, з тым каб забяспечыць краіну гаруча-змазачнымі матэрыяламі ў восеньска-зімовы перыяд.

***Яўген Грубіч, «Народная воля» 29 верасня 2000 г.***

## Цены в магазинах Лоевского райпотребсоюза и рынка по состоянию на 3 сентября 2000 года

| | Райпотребсоюз | Рынок |
|---|---|---|
| Хлеб ( 1 кг ) | 240 | - |
| Молоко ( 3 л ) | 390 | 350-400 |
| Сметана ( 1 л ) | 670 | 700 |
| Творог ( 1 кг ) | 672 | 550-600 |
| Масло сливочное 1 кг | 1848 | 1500 |
| Масло растительное 1 л | | |
| - нерафинированое | 980 | 750 |
| Яйца 1 дес. | 461 | 550 |
| Свинина 1 кг | 1982 | 2300 |
| Сахар 1 кг | 483 | 480 |
| Рис 1 кг | 458 (дробленый) | 500 |
| Гречка 1 кг | 741 | 700 |
| Макарон. изделия 1 кг | 623 | 500-600 |
| Мука | 409 | 360-370 |
| Картофель 1 кг | 141 | 120 |
| Апельсины 1 кг | 892 | 700 |
| Лимоны 1 кг | - | 1100 |
| Помидоры 1 кг | 417 | 380 |
| Капуста 1 кг | 182 | 150 |

*На начало сентября 2000 года цены в магазинах Лоевского райпотребсоюза на ряд продуктов питания превышали цены местного рынка, в том числе на молоко - на 10%, творог - на 12%, масло растительное - на 23%, муку - на 8%, гречку - на 6%, макаронные изделия - на 4%, капусту - на 17%, картофель - на 14%, помидоры на 9%, апельсины - на 20%. Дешевле в магазинах продавались яйца - на 19% , сметана - на 4%, свинина - на 16%, рис - на 8%.*

*В течение месяца на Лоевском рынке подорожали следующие продукты питания: молоко - на 14 %, творог - на 10-20%, масло растительное - на 15%, яйца на 10%, мука - на 3-6%, макаронные изделия - на 9-26%, гречка - на 3%, апельсины - на 8%. Дешевле стали сахар - на 8%, бананы - на 30%, помидоры - на 5-20%.*

*Остались без изменения цены на свинину, рис, картофель, огурцы, капусту, лимоны.*

*Наш кор.*

**НАВІНЫ І ІНФАРМАЦЫЯ**

## *На 5 працэнтаў выраслі цэны на белую гарэлку*

***1 верасня ў Беларусі на 5 працэнтаў выраслі цэны на белую гарэлку. Цяпер у рознічным продажы паўлітровая «вінтавая»бутэлька гарэлкі «Крышталь - 100» каштуе 1361 рубель (раней - 1299 рублеў), «Крышталь - люкс» і «Белая Русь» - 1405 рублеў ( раней - 1343 рублі).***

***Цяперашняе павышэнне цэн на гарэлку стала селета восьмым. Папярэднія адбываліся 21 студзеня (на 30 працэнтаў), 10 лютага (на 20), 18 сакавіка (на 15), 21 красавіка, 23 чэрвеня, 8 ліпеня і 3 жніўня (на 5 працэнтаў. З пачатку года кошт гарэлкі вырас у 2,3 раза, тады як спажывецкія цэны ў цэлым - у1,7 раза.***

***Дзмітрый Уласаў. «Народная воля» 5 верасня 2000 г.***

## Павышаны цэны на нафтапрадукты

*З часу апошняга іх павышэння не прайшло і дзесяці дзен. Цяпер, згодна з загадам кіраўніцтва дзяржканцэрна «Белнафтахім» літр бензіна А-76, які рэалізуецца прадпрыемствамі канцэрна праз аўтазаправачныя станцыі, каштуе 404 рублі, АІ-92 - 505 рублеў, АІ-95 - 579 рублеў. Літр дызельнага паліва каштуе 375 рублеў. ( Гэта ўжо трэцяе падаражанне нафтапрадуктаў на працягу верасня гэтага года - Рэд.)*

*Асноўнай прычынай павышэння цаны на нафтапрадукты, як тлумачаць ва ўрадзе, з*яўляецца патрэба «Белнафтахіма» ў абаротных сродках, якія неабходны для закупкі вуглевадароднай сыравіны, з тым каб забяспечыць краіну гаруча-змазачнымі матэрыяламі ў восеньска-зімовы перыяд.*

*Яўген Грубіч. «Народная воля» 29 верасня*

## Беларусы на Сусьветным Дні Моладзі

Каля 800 маладых каталікоў зь Беларусі бяруць удзел у вандроўцы на XV Сусьветны Дзень Моладзі, які праходзіць ў Рыме з 14 па 20 жніўня. Беларусы спаткаюцца зь Янам Паўлам II, перададуць яму прывітаньні ды падарункі - абразы Маці Божай Троцкай ды Маці Божай Будслаўскай. Беларускія ўдзельнікі наведаюць розныя гарады Італіі, а 20 жніўня адбудзецца сьвятая імша, якую адслужыць сам Папа Рымскі. Беларуская моладзь удзельнічала ў падобным мерапрыемсве ў 1997 годзе ў Парыжы, але туды змаглі паехаць толькі каля 100 чалавек.

BARC List news

# З архітэктурнай спадчыны Лоеўшчыны

Гісторыя любой мясцовасці, гэта гісторыя не толькі яе населеных пунктаў, іх вуліц і плошчаў, гэта і гісторыя будынкаў. Самыя старэйшыя і адметныя з іх адносяцца да помнікаў гісторыі і архітэктуры. Не з'яўляяецца выключэннем з гэтага і Лоеўскі раен. Большасць такіх пабудоў на Лоеўшчыне былі драўлянымі і не дайшлі да нас, захавалася толькі некалькі цагляных помнікаў жыллевага будаўніцтва 19 - пачатку 20 стагоддзя.

Самым старым і самым адметным будынкам на Лоеўшчыне з'яўляецца палацсядзіба графіні Бараноўскай у весцы Суткоў.. Пабудаваны палацава-сядзібны комплекс у пачатку 19-га стагоддзя ў стылі класіцызму з сіметрычнай планіроўкай на высокім маляўнічым правым беразе Дняпра. Пабудаваў палац Н. Рудзіеўскі, зяць Станіслава Юдыцкага, якому належала Суткоўскае памесце. Будаўніцтва яго вялося пад моцным уплывам рускай школы дойлідства. У архітэктуры палаца выкарыстоўваўся дарычны ордэр.

Будынак павернуты на захад парадным фасадам Ен ўяўляе сабой двухпавярховую пабудову з аб'емна-прасторавай кампазіцыяй і складанай у плане формай. Цэнтральны корпус пабудаваны ў форме прамавугольніка і злучаны з аднапавярховымі бакавымі флігелямі закрытымі галерэямі. Уваходная частка у цэнтры галоўнага фасада вылучана класічным дарычным порцікам, увянчаным трохвугольным франтонам. Такі ж порцік размешчан ў цэнтральнай частцы дваровага фасада. Паверхня сцен цэнтральнай часткі сядзібнага дома раздзелена па вертыкалі прафілераваным карнізам і прарэзана двума радамі высокіх прамавугольных аконных праемаў. На першым этажы паверхня сцен дэкарыравана сярэднім рустам. Вокны абрамлены простымі налічнікамі і ўпрыгожаны на першым паверсе трохвугольнымі, а на другім паверсе прамавугольнымі сандрыкамі.

Паміж чатырох калон галоўнага фасада размешчаны шырокі балкон, такі ж балкон быў пабудаваны і з другога усходняга боку.

Будынак сядзібнага дома адкрываецца з боку пад'язной алеі парка, які, на жаль, захаваўся толькі часткова, але даносіць да нас рысы рэгулярнага сядзібнага парка эпохі класіцызму. Плошча больш за 5 гектараў.. Парк пейзажнага тыпу размешчаецца ўздоўж стромкага берага Дняпра. Ен падзяляецца ярам на паўночную і паўдневую часткі. Найбольш зберагласся яго прыбярэжная частка.

У парку растуць мясцовыя дрэвавыя пароды, а таксама больш за 20 асобных каштоўных парод, у тым ліку акацыя белая, ліпа буйналістая і дробналістая, лістоўніца еўрапейская, птэлея трохлістая, таполя пірамідальная, ясень звычайны і плакучы і іншыя. Парк перспектыўны для аднаўлення.

У 1870 годзе ўнук Станіслава Юдыцкага па невядомай прычыне прадаў Суткоўскае памесце Чайкоўскай, ад якой тое памесце у хуткім часе выкупіў Бараноўскі. Сям'я Бараноўскіх была апошнім уладальнікам палаца да Кастрычніцкай рэвалюцыі.

У 1919 годзе сядзіба стала цэнтрам таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі, затым Дняпроўскай камуны, потым цэнтрльнай сядзібай саўгаса « Дняпроўскі «, а пазней і да цяперашняга часу ў гэтым будынку размяшчаецца Суткоўская сярэдняя школа.

У 19 стагоддзі ў Лоеве таксама існавалі два драўляныя палацы паноў Лашчоў. Былі яны пабудаваны на каменным фундаменце, адзін - у цяперашнім парку ў цэнтральнай частцы замчышча, другі - на паўночнай ускраіне Лоева на беразе Дняпра. Палацы да нашага часу не захаваліся, не знойдзена і іх апісанне. Вядома , што палац на замчышчы згарэў у 1943 годзе ў час вызвалення Лоева ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Засталася толькі драўляная абкладзеная цэглай хата жонкі пана Станіслава Лашча. Як сцвярджаюць старажылы Лоева, жонка Лашча хварэла і не магла мець дзяцей. Каб неяк суцешыць яе, Станіслаў пабудаваў у пачатку 20 стагоддзя недалека ад свайго палаца домік з відамі на Днепр і Лоеў. У 30 гадах да гэтага дома была зроблена драўляная прыбудова. Тут доўгі час размяшчалася міліцыя, а зараз памяшканне выкарыстоўвае раенны аддзел культуры.

У канцы 19 - пачатку 20 стагоддзя ў Лоеве заможнымі жыхарамі мястэчка пачалі ўзводзіцца мураваныя жылыя памяшканні, пабудаваныя ў новым рацыянальным стылі канструктывізму. Да нашага часу захавалася 5 такіх будынкаў. Усе яны маюць сваю архітэктурную адметнасць і каштоўнасць і ў пэўнай ступені вызначаюць сучаснае аблічча гарпаселка.

Самым старым у Лоеве з'яўляецца купецкі дом па вул. Савецкай 1.



***Купецкі дом Долгіна па вуліцы Савецкай 1.***

Пабудаваны ен у 1874 годзе з цэглы лоеўскім купцом Навумам Долгіным. Долгін з сынамі займаўся сплавам лесу на лайбах (баржах) уніз па Дняпру аж да Днепрапятроўска, і на гэтым разбагацеў. У 1910 годзе з правага боку да будынка ен прыбудаваў

*Працяг на ст.5*

*Пачатак на ст.4*

сіметрычную прыбудову, а левую частку дома перабудаваў Удвухпавярховым доме было каля 20 комнат ( на першым паверсе - 9 пакояў вялікіх памераў, на другім - 9 пакояў з кухняй). Першы паверх выкарыстоўваўся пад гасцініцу. У 1930 годзе дом у Долгіных адабрала савецкая ўлада.

Будынак уяўляе сабой прамавугольную ў плане двухпавярховую пабудову, пакрытую чатырохсхільным вальмавым дахам. Галоўны фасад раздзелены па вертыкалі складаным карнізам з арнаментам і сухарыкамі-элементамі, характэрнымі для бесстылевых пабудоў другой паловы 19 стагоддзя. Па гарызанталі праходзіць рытм руставаных лапатак. Паверхня сцяны першага паверха прарэзана лучковымі аконнымі праемамі, упрыгожаны замкавым каменем, вокны другога паверха дэкарыраваны налічнікамі, сандрыкамі і арнаментам. Увесь набор дэкаратыўных элементаў, выкарыстаных у дэкаратыўным узоры характэрны для эклектычных пабудоў другой паловы 19-га стагоддзя, частка з іх запазычана з архітэктуры неакласіцызму.

Доўгі час у гэтым доме размяшчаўся райвыканкам, а зараз аддзел культуры райвыканкама, музычная школа і раенная бібліятэка.

У 1997-2000гг. будынак рэканструяваны.

Значную цікавасць выклікае архітэктура купецкага дома па вул.Савецкай 4.

Пабудаваны ен у пачатку 20 стагоддзі з цэглы у стылі эклектыкі, з выкарыстаннем элементаў неакласіцызму. Хто яго пабудаваў і валодаў ім дакладна невядома, але есць меркаванне, што гэты будынак належаў брату Навума Долгіна.



*Купецкі дом па вуліцы Савецкай 4.*

Гэта аднапавярховая, прамавугольная ў плане пабудова пакрытая чатырохсхільным вальмавым дахам. Яе галоўны фасад сіметрычны, крапаваны руставанымі лапаткамі. Паверхня сцен прарэзана лучковымі аконнымі праемамі з налічнікамі. Па перыметру будынка пад дахам праходзіць складаны карніз з дэкорам у выглядзе сухарыкаў. Доўгі час у будынку размяшчалася гасцініца, а зараз Дзяржстрах і Райкам прафсаюзаў працаўнікоў сельскай гаспадаркі.

Зараз дакладна невядома каму належаў купецкі дом па вул. Леніна 6.

Магчыма гэты будынак належаў знакамітым яўрэям-лаяўцам: Гілю, або Смолічу. Пабудаваны ен з цэглы ў другой палове 19-га стагоддзя. Будынак уяўляе сабой квадратную ў плане двухпавярховую пабудову, пакрытую чатырохсхільным вальмавым дахам. Спачатку на першым паверсе будынка была крама, на другім паверсе - жылыя памяшканні. Пасля Вялікай Айчыннай вайны тут доўгі час размяшчаўся райкам партыі, зараз рэдакцыя раеннай газеты.

Невядомы і ўладальнік купецкага дома па вул. Леніна 23.

Пабудаваны ен з цэглы ў канцы 19-га стагоддзя. Аднапавярховая, прамавугольная ў плане пабудова пакрытая трохсхільным дахам. Па перыметру будынка пад дахам праходзіць складаны карніз з дэкорам у выглядзе сухарыкаў.

Зараз у гэтым памяшканні размяшчаецца Лоеўскі філіял АСБ «Беларусбанк». У 1990 годзе да дома з усходняга боку прыбудаваны двухпавярховы будынак адміністрацыі банка.

Пэўную цікавасць у архітэктурным плане выклікае дом па вул. Шэвелева 59.

Пабудаваны ен з цэглы ў 1910 годзе. Належаў мясцоваму прадпрымальніку Карпенка Дзмітрыю, які, адпаведна паданню, выйграў у пана Лашча ў час картачнай гульні 3 гектары зямлі разам з садам і пабудаваў на ей дом. Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане, выцягнуты ў мерадыяльным накірунку, атынкаваны. Паверхня сцен фасада прарэзана лучковымі аконнымі праемамі ў ліштвах. Першапачаткова дом быў пакрыты чатырохсхільным вальмавым дахам.

У 30-х гадах дом быў адабраны савецкай уладай, а Карпенка Дзмітрый з сям'ей сасланы ў ссылку. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў доме размяшчаўся дзетдом, затым у 70-80-я гады - райваенкамат. У 1979 годзе да дома з паўночнага боку ўзведзена сіметрычная прыбудова з цэглы.

***Мікалай Анісавец***

# «Памяць» Лоеўшчыны

Тое, што так доўга чакалася, урэшце рэшт, збылося. Выйшла з друку тыражом 2000 асобнікаў гісторыка-дакументальная хроніка Лоеўскага раена «Памяць».

Падрыхтоўка хронікі пачалася яшчэ ў канцы 80-х годоў, і толькі зараз яна выдадзена за дзяржаўныя сродкі выдавецтвам «Беларуская энцыклапедыя» імя Пятруся Броўкі пад рэдакцыяй галоўнага рэдактара Пашкова Г.П. У склад рэдакцыйнай калегіі разам з супрацоўнікамі выдавецтва «БЭ» уключаны нашы С.А. Мятліцкі і В.П. Крупейчанка. У раеннай камісіі па стварэнню хронікі працавалі В.П.Краўчанка (старшыня камісіі), В.П.Крупейчанка (намеснік старшыні), Н.Т.Маторная, А.А.Трыхмінаў. У ліку аўтараў нарысаў кнігі «Памяць», - вядомыя беларускія гісторыкі Г.В.Штыхаў, А.П.Грыцкевіч, В.М.Князева, Г.М.Сагановіч, В.К.Чаропка, В.І.Мялешка, В.С.Лукін, У.І.Лемяшонак, А.Ю.Пятросава, А.С.Фядосік і іншыя. У хроніцы змешчана шмат гістарычных дакументаў, успаміны удзельнікаў падзей, звязаных з гісторыяй Лоеўшчыны, біяграфіі знакамітых людзей нашага краю.

У кнізе «Памяць» 591 старонка, з іх 41 старонка прысвечана гісторыі Лоеўшчыны да Кастрычніцкай рэвалюцыі і 529 старонак - гісторыі савецкага перыяду, 320 старонак хронікі займаюць спісы рэпрэсіраваных у гады савецкай улады, загінуўшых у часы Вялікай Айчыннай вайны і ўзнагароджаных ганаровымі званнямі, ардэнамі і медалямі ў пасляваенны час.

На жаль, выданне не пазбаўлена шэрагу недахопаў. Толькі фрагментарна ў хроніцы адлюстравана гісторыя Лоеўшчыны перыяду Вялікага княства Літоўскага і знаходжанне ў складзе Расійскай імперыі. Складальнікам кнігі «Памяць» не ўдалося адысці ад марксісцкай метадалогіі ў падборы гістарычных дакументаў і адлюстраванні рэвалюцыйных падзей і партызанскага руху на Лоеўшчыне. На старонках хронікі змешчан толькі адзін нарыс І. Р.Ермакова, ды і той ў сааўтарстве, і, наогул, не згадваецца імя П.М.Шарэны, першых мясцовых збіральнікаў гістарычных матэрыялаў і сур'езных даследчыкаў гісторыі Лоеўшчыны.

Есць і яшчэ шэраг памылак і недакладнасцей, якіх безумоўна можна было б пазбегнуць, каб сігнальны варыянт гэтай кнігі быў папярэдне уважліва прачытаны мясцовымі даследчыкамі гісторыі Лоеўшчыны.

І ўсе ж выхад у свет гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць» Лоеўшчыны надзвычай важная падзея ў гісторыі раена. Гэта сапраўднае свята для ўсіх нашых гісторыкаў і краязнаўцаў , бо гэта першае, па сутнасці, фундаментальнае выданне такога кшталту, і хроніка, безумоўна, стане настольнай кнігай усіх сапраўдных шанавальнікаў гісторыі нашай роднай Лоеўшчыны.

***У. Касцеяў***

# Можем, однако...

Руководители всех рангов властной вертикали не устают заявлять о безграничной любви к своему народу, неустанной заботе о ее благе и процветании. Невольно при этом у нас рядовых граждан, возникает стыдливое чувство вины. Как старается для нас власть, работает не покладая рук, а мы ей не помогаем, не обращаемся к ней за помощью, не даем ей возможности себя проявить в хороших делах. Поэтому власть решает не самые важные наши проблемы, бьется как рыба об лед, а жизнь становится все хуже и хуже. Ведь сами мы в этом виноваты. Нужно идти навстречу власти и на ее заботу о нас, поднимать наши проблемы: о скудных зарплатах и пенсиях, о высоких ценах, о плохих условиях работы и экологии и т.д. и т.п.

Обратиться к власти с письмом меня лично подвигла еще одна причина. Колпенская школа, в которой я работаю, в последние годы преодолела кризис и медленно, с натугой, пошла на подъем. Несмотря на крайне слабую материальную базу, в школе за последние три года заметно повысился уровень учебно-воспитательного процесса, а вместе с ним – успеваемость и поведение учащихся. Не стало откровенно слабых, педагогически запущенных учеников. Коллектив воспрянул духом, поверил, что может работать лучше, результативнее, достойно.

Но все это могло быть утеряно буквально за год по одной простой причине, решение которой зависело от районной власти. Этого допустить было никак нельзя, так что пришлось засесть за письмо.

*Председателю Лоевского райисполкома Метлицкому С. А.*

*Уважаемый Сергей Александрович !*

*Вынужден второй раз, теперь уже письменно, обратиться к Вам с тем же вопросом, с которым я обращался к Вам по телефону в апреле текущего года, но никакого ответа на сей счет не получил. Вы уже знаете, какие проблемы испытывает сегодня Колпенская базовая школа. Достаточно назвать только одну из них: слабая материально-техническая база. Самая большая по численности учащихся базовая школа района ( 96 учащихся) сегодня вынуждена ютиться в здании, построенном в 1965 году для начальной школы, совмещенном с детским садом.*

*Но сегодня даже не это самая главная проблема в обеспечении учебно-воспитательного процесса в школе. Главная проблема здесь - это транспортная проблема. На сегодняшний день 11 учителей ( из них 9 женщин) живут в Лоеве, а работают в Колпенской БШ. Каждый день, невзирая на погоду, они должны добираться на работу с Лоева в Колпень и назад, а это 8 км в одну сторону.*

*И это в условиях, когда нет в эту сторону рейсовых автобусов, а попутный транспорт проезжает здесь очень редко. Представьте себе такую картину: отстоит учитель несколько часов на нервах на трассе, в конце концов доберется до школы, поработает, а затем назад с такими же проблемами. И так изо дня в день. Сможет ли такой учитель эффективно и с полной отдачей работать на протяжении всего учебного года ?*

*Раньше эта проблема школы более - менее успешно решалась. В 80-х годах существовал маршрут пригородного автобуса Лоев - Мохов - Лоев - Крупейки - Колпень - Лоев с двумя рейсами, учитывавшими потребности подвоза учителей. Когда маршрут автобуса закрыли, учителей стал подвозить автобус колхоза «Дружба». Но после того как ГАИ оштрафовало водителя за перегруз автобуса, учителя оказались лишними в колхозном автобусе (кроме учителей автобус подвозил из Лоева строителей и 20 учеников школы из деревни Козероги).*

*Два года назад РОНО закрыло эту проблему, выделив свой автобус для подвоза учителей Колпенской и Крупейской базовых школ ( в Крупейской БШ 8 учителей живут в Лоеве ), но с февраля текущего года подвоз учителей был прекращен под предлогом экономии средств для весеннего сева-99.*

*Через несколько дней начинается новый учебный год. Вопрос подвоза учителей школы в настоящее время не решен, и, по моим сведениям никто этим вопросом серьезно не занимается.*

*Поэтому я вынужден обратиться к Вам с просьбой рассмотреть этот вопрос и решить его в интересах дела, так как убежден, что этот вопрос в районе можете решить только Вы.*

*Вы, безусловно, понимаете, что это проблема не только учителей Колпенской школы, сохранения их здоровья и работоспособности, это вопрос успешной организации учебно-воспитательного процесса в школе, успеваемости учащихся, микроклимата в коллективе и т.д. К тому же ежедневно стоящий у обочины с протянутой рукой учитель - это унижение не только учителя, это унижение и власти, не решившей насущных проблем организации труда учителей.*

*Прошу дать ответ на мое письмо по существу и в соответствии с Законодательством Республики Беларусь.*

*С уважением к Вам и пожеланиями успехов.*

*Учитель истории Колпенской базовой школы*

*Анисовец Н.И.*

*21 августа 2000 года.*

**24 сентября я получил ответ из райисполкома. Вот это письмо с сохранением стиля и орфографии оригинала.**

*Учителю Колпенской БШ Анисовцу Н.И.*

*Районный исполнительный комитет рассмотрел Ваше заявление о проблемах учителей Колпенской БШ, проживающих в г.п. Лоеве.*

*Подвоз учителей к месту работы за счет бюджетных средств не предусмотрен законодательством.*

*В дальнейшем с целью обеспечения нормального функционирования Колпенской БШ будут приняты меры по обеспечению школы учителями, проживающими на месте*

*Отделом образования заключен договор на 2000-2001 учебный год о подвозе из д. Колпень учащихся 10-11 классов в СШ № 1 г.п. Лоева и детей, проживающих в д. Козероги, в Колпенскую БШ с учетом подвоза учителей вашей школы на работу.*

*В настоящее время отделу образования выделяются денежные средства только на выплату заработной платы и питание. Кредиторская задолженность по состоянию на 20.09. 2000 года составляет 40550,5, в следствие чего будут проблемы с оплатой транспортных услуг колхозу «Дружба».*

*Председатель районного исполнительного комитета С.А.Метлицкий.*

Ответ райисполкома нуждается в некотором комментарии, так как страдает неточностью и недосказанностью.

«Подвоз учителей к месту работы... не предусмотрен законодательством». Но Закон «Об образовании» обязывает власти заботиться об условиях труда и быта учителей, а не бросать их на произвол судьбы. «В дальнейшем с целью обеспечения нормального функционирования Колпенской БШ будут приняты меры по обеспечению школы учителями проживающими на месте». Чудесно. И школа делает многое для решения этой проблемы. Только за последние пять лет школа подготовила и направила на учебу в педучилище 8 своих учеников. А власть, кроме голословных заявлений, не сделала ничего. Кто пойдет работать в школу, где нет нормальных условий для работы, не выделяется нормальное жилье, нет хорошей зарплаты ? Может быть только те, кто готовил этот ответ.

«В настоящее время отделу образования выделяются денежные средства только на выплату заработной платы и питания. Кредитная задолженность...составляет 40550,5 ( чего?-Ред.), в следствие чего будут проблемы с оплатой транспортных услуг колхозу «Дружба».

На самом деле бюджетом предусмотрено выделение средств не только на зарплату и питание, но и на подвоз школьников, отопление, ремонт и техническое обслуживание школ. Почему деньги выделяются только на зарплату и питание ? Где же бюджетные деньги предусмотренные на другие нужды школы ? Кто их перераспределяет и с чьего согласия ? Может на эти деньги строятся сегодня дворцы, проводятся помпезные праздники, а страдает школа. Так что вопросы остаются открытыми и отвечать на них должен не учитель.

Отдел образования наконец-то заключил договор с колхозом «Дружба» по подвозу учащихся. Оказалось, что для решения проблемы, связанной с подвозом учителей, не нужны дополнительные денежные средства. Нужно просто элементарное желание властей помочь школе и учителю. Будет ли оно и в дальнейшем у местной власти, или они будут ограничиваться только заклинаниями о безграничной любви к народу, что несомненно проще. Поживем, увидим...

**Н.Анисовец**

***Ответственный за выпуск: Владимир Кастеев***

***Ежемесячный информационой бюллетень Лоевского гражданского объединения содействия сохранению окружающей среды и культурно-исторического наследия "Карані".***

***Издается при технической помощи Гомельского областного объединения "Гражданские инициативы".***

***Контактный телефон : (02347) 2-03-17.***

***Тираж 299 экз.***